Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года
26 (534) 1 ліпеня 2010 года
Кошт свабодны




Дзень моладзі ў Глыбокім

Фота Я. Самсонава.

# 11 ë³ïåíÿ ¢ñå ñàáàê³ ³çíî¢ ó ãîñö³ äà íàñ




■ Эма Баравік

**11 ліпеня ў 11 гадзін на Цэнтральнай плошчы горада Глыбокае адбудзецца кіналагічнае мерапрыемства, якое арганізоўвае рэгіянальнае прадстаўніцтва ГА «Беларускае рэспубліканскае таварыства аматараў жывёлы «Сірыус».**

**У праграме:**

**1.** Касцюміраванае шоў, у якім прымаюць удзел госці з Полацка, Віцебска і іншых гарадоў. Да ўдзелу запрашаюцца глыбачане. Пачатак а 13 гадзіне.

**2.** Паказальнае выступленне рабочых сабак па каравульна-ахоўнай службе і паслухмянасці. Пачатак прыкладна каля 14 гадзін.

У мерапрыемствах прымаюць удзел госці з Літвы, Латвіі, Расіі, Мінска, Віцебска, Полацка, Наваполацка і іншых краін і гарадоў.

Рэгістрацыя ўдзельнікаў да 6 ліпеня. Запрашаюцца і глыбачане.

Жадаючым атрымаць ацэнку вопытнага эксперта званіць па тэл. : 3-01-86, 716-19-08 (МТС)

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ïàëàöû ÷àêàþöü ïåðàìåíû

■ Кастусь Александровіч

**Не кожны горад Беларусі можа пахваліцца такой колькасцю захаваўшыхся гістарычных помнікаў і цэлай рыначнай плошчай італьянскага архітэктара Д. Сакко пабудовы XVIII стагоддзя, як Паставы.**

На захадзе раёна ля граніцы з Літвой на ўскрайку Лынтуп зачароўвае многіх сядзібны палац з паркам графа Бішэўскага. Праўда, стан апошняга жадае лепшага, але неўзабаве ў гісторыі гэтай сядзібы канца XIX стагоддзя могуць пачацца добрыя перамены. На мястэчка звярнула сваю ўвагу адна з прыватных фірм з Масквы і гатова ўкласці ў яе аднаўленне амаль 1,5 млн. USD. У былым палацы ў гарпасёлку маскві-чы вырашылі стварыць гатэль і прымаць тут турыстаў, аматараў адпачынку на ўлонні прыроды. Аб'ект уключаны ў лік 9-ці буйнейшых на Віцебшчыне пабудоў для прыцягнення інвестыцый ў сферы аграэкатурызму. Таксама на ўзроўні Міністэрства культуры Беларусі дасягнута пагадненне, што пастаўскія медыкі пасля пераводу аддзялення неўралогіі ў іншае памяшканне цалкам перададуць Палац Тызенгаўза з падваламі для размяшчэння выдатнага старажытнага музея. Дарэчы, у райцэнтры краязнаўчы музей з 1974 года таксама месціцца ў гістарычным будынку на плошчы – былой паватовай гасцініцы.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Ãðàí³öà íà çàìêó

■ Станіслаў Раманчук

**І пасля ўстанаўлення на заходніх граніцах Беларусі досыць адчувальных візавых бар'ераў, інтэнсіўнасць руху праз мяжу высокая, але не ўсе перасякаюць яе па правілах.**

Вось і ў Браслаўскім раёне на пагранпераходзе "Урбаны" беларуска-латвійскай граніцы днямі былі выяўлены адразу два буйныя выпадкі спроб правапарушэння кантрабанды. Спачатку ў расійскім грузавіку "Вольва" было выяўлена і канфіскавана больш 410 тысяч штук пачак цыгарэт вытворчасці РФ. Затым такім жа чынам вырашыў паправіць свой дабрабыт ужо польскі вадзіцель, які ехаў у Латвію з Расіі без грузу на фуры таксама "Вольва". Ён абсталяваў у падлозе прычэпа тайнік з паўтысячай пачак цыгарэт, якія ў ЕС каштуюць дорага. У гэтым выпадку быў затрыманы і аўтамабіль, суд можа прыняць рашэнне пасля разгляду гэтай справы аб канфіскацыі транспартнага сродку. Увогуле, рызыкаваць везці праз дзяржмяжу кантрабанду – справа марная, бо на граніцы служаць добра падрыхтаваныя спецыялісты. Толькі на ліку старшых прапаршчыкаў мясцовага аддзялення пагранкантролю Юрыя Фядотава і Васіля Цяцеры сёлета ўжо 9 знойдзеных тайнікоў. Яны разам спынілі ўжо 5 спроб незаконнага вывазу з Беларусі за граніцу каштоўных тавараў.

# Ó Â³öåáñêó àäêðû¢ñÿ ïàðê Ïàðòûçàíñêàé ñëàâû

**Парк Партызанскай славы адкрыўся ў Віцебску 25 чэрвеня, напярэдадні 66-й гадавіны вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Падзея адбылася ў рамках святкавання Дня горада.**

■ Таццяна Чабатарова, *БелаПАН*

Парк знаходзіцца на тэрыторыі абласнога музея Героя Савецкага Саюза Міная Шмырова. Экспазіцыйная рэкрэацыя пад адкрытым небам уяўляе сабой рэканструкцыю партызанскай стаянкі часоў Вялікай Айчыннай вайны. У цэнтры парку размяшчаюцца чатыры зямлянкі: медыцынская, жылая, штабная і зброевая. Яны пабудаваныя па арыгінальных чарцяжах, апублікаваных у 1942-1943 гадах у брашуры "Спадарожнік партызана". У іх афармленні былі скарыстаныя прадметы партызанскага побыту з фондаў музея Шмырова.

У парку таксама знаходзяцца іншыя атрыбуты партызанскага лагера: акоп, уваход у які ідзе са штабной зямлянкі, чыгуначная платформа ўзору 1940-х гадоў, якую музею перадало Віцебскае аддзяленне Беларускай чыгункі, а таксама будан, вогнішча і калёсы.

Ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця парку ўзялі ўдзел дачка "бацькі Міная" Дзіна Шмырова і ветэраны вайны.

25 чэрвеня ў музеі Шмырова таксама адкрылася выстава, прысвечаная ганароваму грамадзяніну Віцебска балгарыну Дабрыну Дзімітрову, які ў гады Вялікай Айчыннай вайны быў камісарам спецыяльнай разведвальна-дыверсійнай групы Першай беларускай партызанскай брыгады пад кіраўніцтвам Шмырова.

Øàðêî¢ø÷ûíñê³ ðà¸í

# Ê³ï³öü ïðàöà íà áóäî¢ëÿõ

■ Чэслаў Якубовіч

**Пасля працяглага зацішша сёлета ажывілася праца на галоўным доўгабудзе ў райцэнтры Шаркоўшчына – цэнтральнай раённай бальніцы, якую не могуць завяршыць амаль ужо 20 гадоў.**

Сёлета тут будаўнікі мясцовай ПМК-68 пабудавалі дыягнастычны цэнтр і харчовы блок. Пад дах падведзена адно з крылой лячэбнага корпуса, і калі хопіць грошай, то да зімы на будоўлі нарыюць і яшчэ адно лячэбнае аддзяленне. Праўда, на поўнае завяршэнне будаўніцтва гэтага патрэбнага людзям аб'екта яшчэ патрабуецца каля 13 млрд. рублёў, а на гэты год выдзелена толькі чацвёртая частка неабходных сродкаў. У гэтай мясцовасці, як і ў суседзяў, цяпер прафесія будаўніка стала самай прэстыжнай і высокааплочваемай. З пачатку года на працу ў Шаркоўшчынскую ПМК-68 узялі яшчэ 40 чалавек. Раней у цяжкі перыяд крызісу ў гэтай бударганізацыі звальняліся цэлымі брыгадамі і ехалі на заробкі ў Расію. У штаце калоны засталося тады каля 90 работнікаў, а зараз колькасць працуючых перавысіла 320. Галоўнае, што ёсць што будаваць, да сярэдзіны лета навасёлам будуць здадзены яшчэ 20 жылых дамоў у сельскай мясцовасці. Акрамя шматпавярхоўкі ў гарпасёлку, мясцовыя будаўнікі атрымалі падрад на ўзвядзенне і новага 60-кватэрнага дома ў суседнім Глыбокім.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 01.07.10 | | | | пятн.02.07.10 | | | сб. 03.07.10 | | нядз.04.07.10 | | 05.07.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +15 | +21 | +25 | +22 | +17 | +18 | +19 | +14 | +23 | +14 | +24 | +16 | +26 |
| Ціск, мм | 748 | 749 | 748 | 746 | 747 | 748 | 749 | 750 | 752 | 752 | 753 | 751 | 750 |
| Вільготнасць, % | 89 | 64 | 46 | 74 | 92 | 82 | 72 | 86 | 47 | 82 | 43 | - | - |
| Вецер м/сек | Ю 3 | Ю 3 | З 4 | З 1 | З 3 | С-З 4 | С 5 | С-З 2 | С-З 4 | В 1 | С 3 | Ю-В 1 | В 1 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**На фоне знешніх сур'ёзных выклікаў на эканамічную і энергетычную пагрозу ў Беларусі заканчваецца распрацоўка дырэктывы № 4 па лібералізацыі. Галоўная мэта гэтага дакумента прыдаць дынаміцы развіцця айчыннай эканомікі, павысіць канкурэнцыю вытворцаў унутры краіны і прэстыж беларускіх тавараў за мяжой. Пакуль жа фінансавае становішча дзяржавы магло быць і лепшым, бо па ўзроўню сярэднемесячных заробкаў беларусы ўжо істотна адстаюць па гэтаму паказчыку ад Казахстана (455 $) і Расіі (628 $). Крэмль пачаў ціснуць на афіцыйны Мінск, і ў паветры зноў запахла прывідам новай "газавай вайны" паміж саюзнікамі.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Афганістан.** Амерыканскія эксперты на тэрыторыі краіны знайшлі на 1 трлн.$ радовішчы жалеза, медзі, кобальту, золата, а найбольш – рэдкага металу літыю для вырабу ноўтбукаў.

**Італія.** Урад краіны вырашыў павысіць пенсійны ўзрост для жанчын, работніц дзяржсектару з цяперашніх 60 да 65 гадоў, гэта мера не датычыць прыватнага сектара.

**Расія.** Віцэ-прэм'ер урада РФ Ігар Сечын прыгразіў Беларусі судом у выпадку, калі яна не разлічыцца з "Газпрамам" за газ у 2010 годзе па сярэдняй цане 187 $ за тыс. кубаметраў.

**Іран.** У краіне пачалі шукаць способы абысці ўведзеныя санкцыі ААН, сталі мяняць сцягі і перайменаваць грузавыя судны, ад работ па ўзбагачэнню ўрана іранцы не адмовіліся.

**Англія.** У аэрапорце Лондана быў затрыманы сын былога прэзідэнта Кыргыстана Максім Бакіеў па просьбе Бішкека, яго бацьку Беларусь адмовілася выдаць новай там уладзе.

**Германія.** Урад прыняў праграму жорсткай эканоміі да 2014 года бюджэтных сродкаў у памеры 80 млрд. EUR, тут павысяць падаткі, знізяць дапамогі па беспрацоўю і на дзяцей.

**ЗША.** Прэзідэнт Б. Абама прадоўжыў яшчэ на 1 год санкцыі, уведзеныя да вышэйшых службовых асоб Беларусі за існуючыя сур'ёзныя праблемы ў сферы правоў чалавека.

**Эстонія.** Па новаму прынятаму парламентам краіны закону аб асноўнай школе і гімназіі за пропуск заняткаў злосным прагульшчыкам увялі штраф для іх бацькоў да 800 EUR.

**Францыя.** Еўрапейскі суд па правах чалавека ў Страсбургу аштрафаваў Расію на 430 тыс. EUR за знікненне жыхароў Чачні ў 2001-2002 гадах па іскам родных прапаўшых людзей.

**КНДР.** Лідэр самай закрытай краіны свету Кім Чэн Ір адправіў у адстаўку прэм'ер-міністра і прызначыў на гэту пасаду свайго зяця-мужа 35-гадовай дачкі Чхве Ен Рыма.

**Кітай.** Спецыялісты навуковага цэнтра ў Шэньчжэне запусцілі другі па магутнасці ў свеце суперкамп'ютар з хуткасцю працы больш тысячы трлн. аперацый у секунду.

**Казахстан.** Парламент краіны першым ратыфіцыраваў Мытны саюз трох дзяржаў, да 70-годдзя "лідэра нацыі" Н. Назарбаева прайшла прэм'ера песні на канцэрце ў яго гонар.

**ПАР.** Услед за ФІФА аргкамітэт чэмпіянату свету па футболе некалькі разоў адхіліў прапановы аб забароне выкарыстання гледачамі мясцовых дудак (вувузел) на матчах.

**Польшча.** На XXV Міжнародным хрысціянскім кінафестывалі ў Непокалянове сярод 172 работ два прызы атрымалі фільмы беларускіх рэжысёраў Ю. Гарулёва і Д. Салаша.

**Бразілія.** Паліцыя арыштавала 54- гадовага рыбака, які 12 гадоў пад дамашнім арыштам трымаў сваю 28-гадовую дачку, ад бацькі яна парадзіла семярых дзяцей без іх рэгістрацыі.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** З-за эканамічнага крызіса з інвестыцыйнай праграмы Беларусі выключылі будаўніцтва 126 аб'ектаў, скарацілі фінансаванне - 130, айчынны экспарт упаў на 35 %.

**Салігорск.** Завяршыліся неабходныя работы для пераўтварэння з РУП "Беларуськалія" у ААТ для магчымай яго далейшай прыватызацыі, зроблена рынкавая ацэнка яго кошту.

**Мінск.** Дэпутаты Палаты прадстаўнікоў падтрымалі ў 2-м чытанні папраўкі ў Закон аб воінскім абавязку, пазбавілі студэнтаў-завочнікаў адтэрміноўкі ад прызыву ў армію.

**Мазыр.** Спецыялісты Беларускай нафтавай кампаніі пачалі прапрацоўваць варыянты транзіту нафты на НПЗ з Венесуэлы і праз марскія порты Літвы, Латвіі і нават Эстоніі.

**Мінск.** Вядомы вучоны-эканаміст Леанід Злотнікаў прадказаў, што праз 3-4 месяцы пасля прэзідэнцкіх выбараў інфляцыя стане вельмі адчувальнай для насельніцтва Беларусі.

**Гродна.** На тытунёвай фабрыцы "Нёман" пачалася ўстаноўка навейшага ў Беларусі абсталявання для выпуску цыгарэт, іх серыйная вытворчасць пачнецца тут у верасні.

**Магілёў.** Уся прадукцыя ААТ "Бабуліна крынка" поўнасцю адпавядае патрабаванням ЕС, атрыманы жаданы сертыфікат адкрывае для магіляўчан доступ на рынкі Еўропы і свету.

**Мінск.** Дабіваючыся справядлівасці пасля свайго арышту зімой апергрупай КДБ следчы па важнейшых справах Генпракуратуры РБ С. Байкова пачала бястэрміновую галадоўку.

**Шклоў.** З-за складаных перамоў па Мытнаму саюзу Прэзідэнт А. Лукашэнка праігнараваў запрашэнне на адкрыццё тут сучаснага малочнага завода СТАА "ЮНІМІЛК-Шклоў".

**Нясвіж.** У двары замка Радзівілаў сумесна з Вялікім тэатрам оперы і балета РБ прайшлі два вечары культуры, паказалі оперу і балетны спектакль, два канцэрты музыкі класікі.

**Гомель.** Міліцыя затрымала групоўку злодзеяў-каскадзёраў з грамадзян Беларусі і Украіны, якія цэлы год выкрадалі начамі на хуткасці розныя грузы з аўтафургонаў.

**Мінск.** І чатырох месяцаў не пратрымаўся на пасадзе гендырэктара хакейнага "Дынама" расійскі спецыяліст Сяргей Каткоў, клуб ліхарадзяць скандалы з кантрактамі ігракоў.

**Мазыр.** Падчас рыбалкі на рацэ Прыпяць утапіўся вядомы 31-гадовы футбаліст, капітан мясцовага ФК "Славія-Мазыр" Станіслаў Караткевіч, яго цела доўга шукалі пад вадой.

**Гродна.** Старшыня непрызнанага Саюза палякаў РБ Анжаліка Борыс заявіла аб намеры пакінуць пасаду, бо стамілася цярпець моцны ціск, які двух братоў пазбавілі працы.

**Мінск.** У рамках турнэ па планеце сусветна вядомы музыкант Сцінг згадзіўся 18 верасня даць канцэрт на "Мінск-арэне" у суправаджэнні брытанскага Каралеўскага аркестра.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûõ àáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Амаль на 53 тысячы з 1995 года скарацілася ў вобласці, як адзначалася на сесіі абласвета дэпутатаў, колькасць прысядзібных гаспадарак на вёсцы, кароў – на 70 %.

**Орша.** Канцэрн "Беллегпрам" намеціў на мясцовым льнокамбінаце з 2011 года выпуск зусім новых відаў тканін с поліэсцерам, віскозай для пашыву з іх касцюмаў і сукенак.

**Наваполацк.** Пасля сваёй рэабілітацыі сярэбраны прызер гульняў летняй Алімпіяды-2008 у Пекіне Вадзім Дзевятоўскі атрымае абяцаныя 50 тыс. $ і двухпакаёвую кватэру.

**Віцебск.** На працягу тыдня на мясцовай бройлернай птушкафабрыцы працавалі інспектары ЕС, якія ацэньвалі ні гатоўнасць пастаўляць мяса птушкі на рынкі Еўропы.

**Полацк.** На заводзе ААТ "Шкловалакно" асвоілі выпуск новай сучаснай і лёгкай мадэлі прагулачнай лодкі з трывалага шклопластыка, якая перавозіцца на даху легкавушкі.

**Наваполацк.** З пераліку дзяржаб'ектаў, забароненых для прыватызацыі, выключылі магістральныя нафтапроводы мясцовага РУП па транспарціроўцы нафты "Дружба".

**Віцебск.** У вобласці сёлета на 8 пунктах у цэнтралізаваным тэсціраванні ўдзельнічалі амаль 50 тысяч чалавек, што на 2130 юнакоў і дзяўчат меней, чым было год назад.

**Лепель.** Лепшыя вырабы мясцовага МКК сталі пераможцамі нацыянальнага конкурса-дэгустацыі "ГУСТ", атрымалі права несці яго лагатып на ўпакоўку сваіх прадуктаў.

**Віцебск.** Кандытарскі камбінат "Віцьба" на новай аўстрыйскай лініі распрацаваў навінку – вафельныя трубачкі "Вівайлі эліт" адметнага дызайну, памеру і вытанчанага смаку.

**Полацк.** За грубыя парушэнні правілаў рознічнага гандлю, продаж пратэрмінаваных прадуктаў Дзяржкантроль прыцягнуў да адказнасці ўпраўленцаў малочнага камбіната.

**Віцебск.** На Дзень горада ўрачыста адкрылі ўнікальны парк Партызанскай славы з 4-мя сапраўднымі зямлянкамі, акопамі і экспанатамі, якія перадаюць дух мінулай эпохі.

**Наваполацк.** У Лядовым палацы на працягу 10 дзён праходзіла буйная выстава-продаж індыйскіх тавараў, яе асабіста наведаў пасол Індыі ў Беларусі спадар Рамеш Чандзер.

**Віцебск.** У новы касцёл Езуса Міласэрнага прыбыла да 4 ліпеня найвялікшая хрысціянская святыня – Турынская плашчаніца, саван, у які было загорнута цела Хрыста.

**Полацк.** На працягу двух дзён пад сценамі Сафійскага сабора праходзіў III фестываль сярэднявечнай культуры "Рубон", прысвечаны 600-годдзю Грунвальдскай бітвы.

**Расоны.** На базе вёскі Забор'е адкрыўся другі ў Беларусі інфармацыйны цэнтр па ўстойліваму развіццю рэгіёнаў і экалагічнага турызма па сумесных праектах ЕС і ААН.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**15%** на такі аб'ём канцэрн "Газпрам" раніцай 21 чэрвеня, як і абяцаў, скараціў пастаўкі газу ў Беларусь. Гэта навіна ўстрывожыла многіх не толькі ў нашай краіне, яна стала падзеяй № 1 і для жыхароў дзяржаў Еўрапейскай супольнасці. Еўрапейцы ведаюць, чым раней, праўда, зімой заканчваўся такі газавы шантаж Крамля тых жа украінцаў – у лютыя халады перастала тады паступаць паліва ў шэраг рэспублік на ўсходніх граніцах ЕС.

Цяпер чарговая "газавая вайна" паміж суседзямі, а зараз толькі партнёрамі ў так званай Саюзнай дзяржаве РФ і РБ пачалася ў больш спрыяльны перыяд года, але ўсё роўна непрыемна і трывожна яе перажываць. Да прыкладу, Расія скрозь пальцы глядзіць на тое, што прарасійскае кіраўніцтва непрызнанага Прыднястроўя ў Малдове гадамі не плоціць за "блакітнае паліва" і запазычыла не адну сотню мільёнаў $. Невыпадкова беларускі ўрад папярэдзіў Еўракамісію аб неканструктыўнай пазіцыі расійскага манапаліста і аб магчымасці зьмяншэння транзіту газу па беларускай тэрыторыі ў Еўропу.

Справа ў тым, што ў выпадку магчымых зніжэнняў паставак газу на 85 %, магла б моцна пацярпець энергасістэма Беларусі. У такім выпадку, беларусы проста элементарна маглі б пачаць адбіраць сабе еўрапейскія аб'ёмы газу. Што і казаць, праблема наспела сур'ёзная, а расійскае кіраўніцтва па газаваму пытанню заняло жорсткую пазіцыю. Тандэму Дзмітрый Мядзведзеў – Уладзімір Пуцін цяпер не да сантыментаў брацкай дружбы, сумеснай ранейшай барацьбы ў акопах, іх адносіны з афіцыйным Мінскам пачалі развівацца досыць холадна. Напэўна Крэмль быў абураны яго негатоўнасцю падпісаць дакументы па функцыяніраванню ў паўнацэнным фармаце з 1 ліпеня Мытнага саюза.

Не хоча больш лічыцца Расія і з цяжкім фінансавым становішчам Беларусі. Як стала вядома, складана цяпер стала ў беларусаў з валютай, трэба недзе было нам тэрмінова пазычыць 192 млн. USD для пагашэння гэтага ўзнікшага доўгу. Але ўзнікае заканамернае пытанне, няўжо нельга было раней прадбачыць, што такая сітуацыя можа ўзнікнуць. Гэты доўг узнік таму, што з пачатку года наша краіна ўпарта плаціла расіянам па цане кантракта 2009 года – 150 $/тыс. куб. м.

Аднак сёлета ўжо ў 1-м квартале беларусы, дакладней кіраўніцтва краіны, не стала прытрымлівацца кантрактных цэн – 169,22 $ тыс. куб. м (1-ы квартал) і 184,8 $ (2-гі квартал). З кожным днём пазіцыя Крамля станавілася ўсё больш суровай, бо беларускае Мінэнерга стала выстаўляць сустрэчныя прэтэнзіі "Газпраму" за даўгі крыху болей 200 млн. $ за транзіт яго газу ў Еўропу.

Дзякуй Богу, што краіны-удзельніцы канфлікту не стукнулі дзвярыма і не выйшлі з непрыемнага перагаворнага працэсу. Тым не менш, "Газпрам" злуецца, што за апошнія 4 гады пераліцыў Беларусі 2,5 млрд. $ за палову пакета акцый "Белтрансгаза", у тым ліку сёлета 625 млн. долараў. На прынцып роўнадаходнасці цэнаў на газ, падобна на тое, Масква больш не пойдзе, яна канчаткова для сябе, магчыма, вырашыла аддзяліць, як казалі раней, "мух ад катлет". З дапамогай "газавага рычага", бар'ераў па малаку і іншых беларускіх тавараў Крэмль імкнецца дацісніць свайго ўпартага саюзніка.

Далейшае развіццё ўзаемаадносін суседзяў увогуле мае шанц пайсці па яшчэ горшаму сцэнарыю. Калі Беларусь не далучыцца да Мытнага саюза (Расія не жадае болей плаціць за гэты крок, лічыць, што і так ёй дапамагае самымі нізкімі ў СНД і Еўропе цэнамі на газ і нафту), то Крэмль вымушаны будзе захаваць мытны кантроль на сваёй беларускай граніцы. А вось гэтага нам трэба баяцца, бо айчынная эканоміка амаль поўнасцю завязана на расійскі рынак.

Вось чаму будзе і надалей працягвацца палітычны гандаль па стратэгічных пытаннях, вось чаму ў Мінск тэрмінова прылятаў сакратар Савета бяспекі РФ, былы галоўны расійскі кадэбіст Мікалай Патрушаў. На жаль, ужо на другі дзень газавага канфлікту Расія скараціла пастаўкі газу ў Беларусь на трэць. У адказ па распараджэнню А. Лукашэнкі Беларусь спыніла транзіт расійскага газу ў Еўропу... У рэальным жыцці, калі так ідуць падзеі, простаму народу трэба рыхтавацца да горшага з-за магчымага росту цэн на газ.

# Бабруйшчына
## (Дзісненскі павет)

**Дзякуючы Кастусю Шыталю, да нас патрапіў вельмі цікавы матэрыял, які быў апублікаваны ў часопісе Nasz Przyjaciel, Nr. 41, 11.10.1931, s. 6-8; Nr. 42, 18.10.1931, s. 5-8.**

**Матэрыял прысвечаны вёсцы Бабруйшчына, аўтар якога схаваўся пад псеўданімам Alwicz. Матэрыял пачынаецца ўспамінамі пра першы ягоны прыезд у Бабруйшчыну, які адбыўся дзесьці ў 1904 годзе (за 10 гадоў да Першай сусветнай вайны) і заканчваецца 1931 годам.**

**Шкада, але гісторыя не мае ўмоўнага ладу! Што было, каб было інакш? Грандыёзныя мары рухнулі ў імгненне вока. Інакш бы сёння Бабруйшчына была б ладным мястэчкам, а не дачнай вёскай для мінчанаў…**

Упершыню я ўбачыў Бабруйшчыну гадоў за 10 да сусветнай вайны. Зрабіла яна на мяне цудоўнае ўражанне. Тутэйшая прырода спрэч хвойная, авалодала ўсім наваколлем і стварыла цацку, на якую з прыемнасцю глядзіш. Апісаць тое цяжка: трэба – бачыць.

Да Бабруйшчыны пад'язджаў з боку поўначы. Быў майскі дзень, цёплы і сонечны. Мінуўшы паласу дарослага сасновага лесу, дарожка вяла мяне ўжо праз поле, пакрытае жытам і купкамі дрэў. А на ўскрайку віднелася вёска Леановічы, а за вёскай ізноў лес. Напрыканцы вёскі дарожка раптам пайшла ўніз. З яе правага боку паказаўся велічэзны кілім ясных і ціхіх вод возера, які блішчэў на сонцы, а чароўны лес, які тут, перад возерам прыпыніўся, углядаўся ў воды, нібыта ў люстра.

Возера прытулілася да дарогі і злучалася з іншым, значна большым, бераг якога губляўся дзесьці ў лясах.

Дарожка бегла далей на поле, дзе з аднаго боку пералівалася хвалямі пасеянае жыта, а з другога – зелянеў луг. Раптам яна вострa заламалася, павярнулася ўлева на алешнік і ні з таго ні з сяго выглянулі дзве рэчкі, горная і дольная. Пераскочылі па мосце. Дольная рэчка мае сваё натуральнае рэчышча, горная ж цячэ верхам ў штучным рэчышчы, карыта якой зроблена з дошак на палях*, па даўжыні не меней кіламетра, а шырынёй у два метры. Абедзьве рэчкі беглі да сваіх водных, што асобна стаялі і належалі розным гаспадарам, млыноў, а па выйсцю зліваліся ў адзіную рэчку і беглі далей у сваёй згодзе.

І так, я ўжо быў у Бабруйшчыне. Бабруйшчына падалася мне падобнай на

*Паля па-руску – свая


Фота Ул. Скрабатуна.

Бабруйшчына. Царква св. Іаана Хрысціцеля

вялікі абрус у колерах лета, ндбала скінутыя ў крушню камяні, калоды дрэваў. Паверхня ж тут была складанай, разнастайнай у розных накірунках і ўтварала нізіны, пагоркі і раўніны.

На пагорках раслі дрэвы: сосны, яліны ды бярозы, а на далінах сцяліліся палявыя кветкі, прыцененыя абвіслымі сукамі вольхаў, вербаў, сапраўдных гаёў, чутны спевы салаўёў і ўсялякіх розных птахаў.

На адным з зялёных пагоркаў бялела праваслаўная царквушка, на іншых двух сярод гаёвых соснаў разлегліся са сваімі крыжамі каталіцкія і праваслаўныя могількі.

У адной з упадзінаў, над вясёлым, жвавым струменьчыкам хтосьці колісь збудаваў малюсенькую драўляную каплічку. Стаяла ў ёй старая драўляная фігура святога Яна, якая прыглядалася да вады, што ля ног ягоных праплывала, такая смачная, і кожны тут яе з ахвотай п'е.

На апрацаваных раўнінах рассыпаліся дамы і дамкі жыхароў Бабруйшчыны і два млыны. Дамы, дамкі і будынкі не ўтвараюць тут вуліцы і кожны стаіць дзе хоча і як хоча.

Толькі двор адсунуўся ад гэтай мешаніны і стаіць пад ўзгоркам, недалёка ад згаданых ужо двух азёраў.

Той маляўнічы і не планаваны россып пабудоў надае замілаванне ўсёй прыгожай прыродзе і вельмі з ёй гармануе.

Увесь гэты краявід, – гэтыя воды, рэкі, крыніцы, пагоркі, даліны, лес, а яшчэ звяры, рыба, ягады – тое Бабруйшчына.

Не дзіўна тады, што гэтую самую мясцовасць, яшчэ перад людзьмі, абралі на свае сядзібы бабры. Мелі яны тут, як кажуць людзі, шматлікія свае калоніі. На тых калоніях жылі цэлымі статкамі і надалі гэтай мясцовасці сваё імя. Цяпер аб баброх тут нічога не чуваць.

Бабруйшчына належыла і належыць да Празароцкай воласці, і прыносіла гонар Задарожскай парафіі. Уласнікам яе быў грамадзянін земскі п. Антоній Івашэўскі. Стала пражываў ён не ў Бабруйшчыне, а ў Ухвішчы, а Бабруйшчыну здаваў у арэнду. Калі я з ім пазнаёміўся, быў ён ужо чалавекам у сталым ўзросце і шырока вядомы, дзякуючы сваёй добрасумленнасці, дабрацe, патрыятызму і вялікай заможнасці.

Ягоны дом у Ухвішчы быў домам для ўсіх. Гасціннасць паньства Івашэўскіх была аж празмернай. Не пагарджалі ніякім госцем, абы ён быў добрым і сумленным. Хто меў ахвоту мог спыніцца ў адным з некалькіх нумарных пакояў, як у гатэлі, хоць некалькі тыдняў. Была там у адным з дворскіх будынкаў і бурса для падрыхтоўкі маладых хлопцаў для Семінарыі ў Пецярбургу і Жытоміры.

У Віленскім Земскім Банку, нават і ў Тульскім, быў Івашэўскі паважаны за фокусніка. Ягоныя фокусы палягалі на тым, што на дзень аўкцыёнаў, польскіх маёнткаў патрапіўшых у даўгі ў тых банках, уласнікі якіх не маглі ўратаваць іх праз аплату ўзносаў і енчылі з болю, Івашэўскі, нікім няпрошаны і нябачны, прыходзіў да касы дзесьці іншымі дзвярыма, сплачваў належную суму запазычаннасці, і не хваляючыся аб тым нікому, зыходзіў у бок, і так ацаліў шмат маёнткаў, а іх уласнікам, што былі ў слёзах, прыпадносіў нібы фокус, наводзячы на роздум, чаму іх маёнтак раптам, невядома для чаго, зняты з аўкцыёну.

Пэўнага разу сплаціў ён фокус і свайму Задарожскаму пробашчу. Задарожскім пробашчам быў тады ксёндз А. Валентыновіч. Ён быў вельмі заняты і цалкам адданы будоўлі новага касцёла ў Задарожжы і збіраў, дзе толькі мог, грашовыя ахвяры і дрэва на Касцёл. Аднойчы пры спатканні з п. Івашэўскім папрасіў яго аб ахвяраванні пэўнай колькасці соснаў з Бабруйшчынскіх лясоў на бэлькі і вязанне даху. Пан Івашэўскі ахвотна, ў цэлым лесе, ахвяраваў яму на выбар сосны, але толькі тры.

Ксёндз Валентыновіч быў у задуменні ад такой ахвяры, і ў душы ўспрыняў гэта за фокус, шчыра падзякаваў,


Фота Ул. Скрабатуна.

Бабруйшчына. Старадаўні млын, які перабудаваны пад сучасны катэдж.



Ксёндз Антоній Валентыновіч

і пастанавіў аддзячыць свайму ахвярадаўцу фокус за фокус.

Калі дачакаўся адпаведнага часу, абвясціў сваім задарожскім парафіянам, абы ў завешчаны дзень з'ехаліся да Бабруйшчыны за ахвяраванымі соснамі, як найменей 300 саняў. Парафіяне ўцямілі. Ляснік, калі ўбачыў столькі фурманак, быў уражаны, няўжо на столькі фурманак пан ахвяраваў лесу.

Людзі пад кіраўніцтвам пробашча хутка спілавалі 150 соснаў і павезлі ў Задарожжа.

Раніцою ляснік падаўся да Ухвішча і калі здаў справаздачу аб выбранні 150 соснаў, п. Івашэўскі выказаў перад ім сваё задавальненне, а ксяндзу Валентыновічу паслаў наступнае паведамленне:

*Ухвішча, 19 студзеня 1907 г.*

*Мой Каханы Пробашч!*

*Цяпер ёсць пераканаы, што Вы Касцёл у Задарожжы збудуеце. Што сосны з майго Бабруйшчынскага лесу прыдаліся да Вашага Касцёла, цешуся і дзякую.*

*З пашанаю піша А. Івашэўскі.*

Гэты фокус за фокус стаўся моцным лучнікам паміж п. Івашэўскім і кс. Валентыновічам. Пан Івашэўскі што найменей тры разы на год адведваў задарожскую плябанію, а кс. Валентыновіч Ухвішча.

Узвядзенне касцёла ў Задарожжы было ўжо на сканчэнні. Адбывалася тое ў 1909 годзе. Кс. Валентыновіч у днях ранняй восені выбраўся на адзін дзянёк да Ухвішча. Ехаў у гэты раз са сваім улюбёным патаемным праектам, які быў звязаны са справай дужа сур'ёзнай. Вось бы ў пекнай Бабруйшчыне, адлеглай ад Задарожжа на 14 вёрстаў, збудаваць Касцёл і ўтварыць парафію, вымаючы яе з Задарожскай і ад суседніх парафій, надаючы гонар ёй і бліжэйшай вёсцы.

У Ухвішчы, як заўсёды, застаў купу гасцей. Замест аднаго дня прабыў тут аж тры дні, перадусім на своеасаблівай канферэнцыі колькасцю ў 3 асобы, кс. А. Валентыновіч, п. Івашэўскі і яго жонка, дзе ў паўнаце развіў і матываваў свой праект.

Паньству Івашэўскіх праект адразу запаў у душу. Абмяркоўвалі толькі яго асаблівасці і спосабы выканання, як стыль касцёла, яго памер, месца для яго і г.д., а скончылася на тым, што паньства Івашэўскіх, паміма невялікага супрацыву з боку кс. Валентыновіча, рэкамендавалі яму запрасіць сабе якога хоча і адкуль хоча каморніка (землямера) і на ўтрыманне будучага Касцёла і парафіі ў Бабруйшчыне, спарадзіць наданне касцёлу земляў, лесу, азёраў, млына, што на вадзе з рэчкі дольнай. Пры той манеры п. Івашэўскі прыпомніў кс. А. Валентыновічу свой фокус з трымя соснамі, што мела быць выпрабаваннем спрыту ксяндза А. Валентыновіча і прасіў толькі не забіраць для касцёла двара ў Бабруйшчыне.

Памеры таго надання з розных прычынаў можна было выканаць толькі позняй восенню. Выканаў іх кс. Валентыновіч у той манеры, ішоў тады, калі лічыў, ісці трэба, каморнік, п. Шкленнік з Глыбокага, які хадзіў з ім з вымяральнымі апаратамі, азначаў на паперы тое, што патрапляла.

Такім спосабам вымераны абшар замыкаў у сабе цэлую Бабруйшчыну, так званае мястэчка, з усімі яго будынкамі, водным млынам, полем, лесам, лугамі, возерам і налічваў 78 дзесяцін прасторы.

План з усімі падрабязнасцямі быў выкананы за некалькі дзён. Канферэнцыя па ім паміж кс. А. Валентыновічам і п. Івашэўскім адбылася пад канец снежня ў віленскім гатэлі "Кракаў". План надання п. Івашэўскі цалкам ухваліў. Цяпер канчаткова вырашылі падрабязнасці будоўлі і выканання плану.

Абумоўлена таксама месца пад плябанію і яе пабудовы і выбралі тэрыторыю для саду пры плябаніі.

Было ўхвалена, што ўзвядзенне цагельні пачнецца ранняй вясной 1910 года. Усялякія работы меўся адразу фінансаваць п. Івашэўскі коштам 25 000 рублёў, якія ён прызначыў на касцёл у Бабруйшчыне.

Але надыйшла вясна, і прыгожыя планы былі ўшчэнт перакрыжаваныя.

*Працяг на стар.5*

# Бабруйшчына

## (Дзісненскі павет)

*Фота Ул. Скрабатуна.*

**Бабруйшчына. Касцёл св. Антонія Падуанскага. Ужо, на жаль, не захаваўся.** *Фота 22.07.2004 г.*

**Заканчэнне.**
***Пачатак на стар.4***

Кс. Валентыновіч пад націскам уладных чыноўнікаў мусіў з’ехаць з Задарожжа. Працы, звязаныя з узвядзеннем касцёла ў Бабруйшчыне, так і не распачаліся, усяж адкладаліся, то на восень, то на вясну. Прызначаныя на будоўлю грошы п. Івашэўскі мусіў злажыць у нейкім банку ў Віцебску. Надыйшла вайна. Грошы ў банку прапалі. Пан Івашэўскі памёр.

Ухвішча са сваім багатым дворам, цудоўным і прыгожым гатычным касцёлам, што ўзвышаецца над магільнымі помнікамі яго ўласнікаў, са сваімі велічнымі дзявоцкімі лясамі, мноствам зямель і фальваркаў, засталося на бальшавіцкім баку. Старушка п. Івашэўская, жонка п. Антонія, пераехала на жыхарства ў Вільню, дзе знаходзілася ў вельмі цяжкім становішчы, і, падобна на тое, таксама памерла. Дзяцей пасля іх не засталося. Такім чынам, прыгожыя мары паньства Івашэўскіх і кс. Валентыновіча развеяліся імгненна.

Бабруйшчына аднак была ўпартай і сталася парафіяй.

У 1917 годзе прыехаў сюды яе першы пробашч кс. Д. Першай тут яго справай было стварыць якоясь месца для адпраўлення набажэнства. Трэба было мець хоць хлеў або навес. І з гэтым навесам вельмі добра пашанцавала. Перавезлі з Задарожжа вялікі драўляны дом, некалі збудаваны кс. А. Валентыновічам, у якім, да пабудовы Касцёла ў Задарожжы адпраўлялася набажэнства, і паставілі яго ў сасновым ляску на пагорку, дзе меўся будавацца бабруйшчынскі касцёл.

Так цяпер Задарожжа, нядаўна само ўбогае, злажыла ўбогай, а колісь багатай Бабруйшчыне салідную ахвяру як бы ўзнагароджанне за 150 соснаў некалі спілаваных у ейных лясах для Задарожжа.

Сталася так, што можна жыць сярод пушчаў і лясоў і не мець сабе з чаго змайстраваць драўлянай халупы. Лягчэй сталася разабраць змайстраваную і прывезці адтуль, дзе лесу аніякага няма. А той дом у Задарожжы, пасля асвячэння касцёлам, меўся быць домам для люду. Бог інакш справамі пакіраваў; захацеў, каб і на новым месцы толькі служыў для Яго.

Стаў тады той дом трывала на новым пляцы, толькі, здаецца мне, што ён, змяніўшы сваю пярвотную саламяную шапку на гонтавую, і ёсць Касцёлам Бабруйшчынскай парафіі. Праз пэўны час стала побач і драўляная плябанія і таксама праз колькі часу і плябаньскія пабудовы з круглякоў, на тамтэйшы ўзор, з гладкімі саламянымі, пад лапату, як там робяць дахі.

Сёння ў Бабруйшчыне ёсць ужо 6-ты яе пробашч кс. В. Мае ён шчыры намер збудаваць тут касцёл, за два папярэднія гады ўжо ўзвёў падмуркі. Згодна з бабруйшчынскай традыцыяй, дзе ўсе, хто будуецца, будуюцца там, дзе захацелася, выбраў іншае месца, дзе першапачаткова планавалася будаваць. Такі ёсць тут дух. Не прызнаецца тут аніякая лінія. Але і тое месца ёсць ладнае.

Мае тое быць касцёл нашмат меншы, сціплы, без вежаў, без пышнасці, вось бы, як сказаць, дом Божы ў чатырох сценах. Цяжка аднак цяпер, у тых нашых цяжкіх часах, будзе з будаваннем касцёла ў Бабруйшчыне. Калі ён будзе будавацца так як цяпер будаваўся, то толькі рукамі Божымі.

Бабруйшчынская парафія налічвае цяпер 4 000 душ, заўсёды была беднай, зараз яшчэ беднейшая. Бяда тая зыходзіць з таго, што гаспадары свае нядужыя гаспадаркі змаглі раздрабіць шляхам падзелу на мноства дробных частак. Вёсачкі іхнія, якія злепленыя на кавалках палавінак паміж межамі дворскіх земляў, выглядаюць мізэрна. Палі іх марныя, вазы іх кароткія, цесныя, мізэрныя з усімі іх чатырмя коламі ў купе, міжволі, але праўдзіва прыстасаваныя да іх мізэрнага жыцця. Конікі худыя, дробныя – кароўкі марныя.

Пра эміграцыю ў Амерыку і іншыя замежныя краіны амаль не ведалі. Туляліся каля сваіх уласных двароў і зараблялі на праяданне, якую такую сярмягу ды лапці.

Кожны дарослы гаспадарскі сын жаніўся, ствараў сям’ю і дзяліўся, а як не было чым дзяліцца, ішоў у двор ці фальварак на запашніка.

Сёння Бабруйшчына ў параўнанні з даваеннымі часамі штосьці прыдбала, а штосьці і страціла са сваёй прыгажосці і зачараванасці.

Там, дзе стаяў млын воды, цяпер стаіць магутны паравы млын і тартак, што было пабудавана купцом жыдам на набытым ім пляцы ад жыхара К.

Водны млын са сваёй натуральнай рэчкай, які некалі перайшоў на карысць касцёла, навюткі, як шклянка, змарнеў, разкалаціўся, знішчыўся і стаіць як калека бяздзейны, а міма яго сама па сабе цячэ рэчка. Некаторыя з даўніх дамоў і дамкоў ужо зруйнаваныя. На іх месца прыбыло некалькі новых дамоў і дамкоў, а пабудаваныя яны былі бліжэй да тартака і млына воднага.

Прыбыў касцёл і прыбыла парафія. Пабудавалі агульнаадукацыйную школу.

Прыгожыя краявіды месцамі знішчаныя, бо павысякалі лясы. Цяпер пасля іх тырчыць голае пністае поле. Пазастаўся ў сваёй паўнаце толькі касцельны лес.

Апроч усяго Бабруйшчына ёсць і сёння ладнай, але не на столькі велічнай, як была тады, калі я першы раз яе ўбачыў. Не чаруе сваёй прыгажосцю адразу. Такі краявід з ёй зрабіла жыццё людское.

*Пераклад з польскай Уладзіміра Скрабатуна*

# “Антэі Прыдзвіння”: нетыповы расповед пра беларускія калгасы

Уладзімір Сауліч. Антэі Прыдзвіння: нарысы. Мінск: Парадокс, 2010, - 272 с., іл.

■ **Кастусь Шыталь**

**Глыбоцкі карэспандэнт “Віцебскага рабочага” Уладзімір Сауліч выдаў зборнік нарысаў пра кіраўнікоў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Хоць тэма сельскай гаспадаркі ды яе рэальных або міфічных дасягненняў моцна “заезджаная”, аўтару ўдалося напісаць пра гэта сапраўды цікава.**

Кніга ўтрымлівае сямнаццаць нарысаў. Кожны з іх прысвечаны асобе якога-небудзь з кіраўнікоў сельскагаспадарчых прадпрыемстваў рэгіёна. Героі кнігі працуюць у Глыбоцкім, Пастаўскім, Докшыцкім, Мёрскім, Шаркоўшчынскім, Браслаўскім раёнах.

Апавядаючы пра кіраўнікоў гаспадарак, аўтар прадстаўляе іх як працавітых і сумленных людзей, якія няспынна дбаюць пра вытворчасць і пра падначаленых ім людзей. Ствараючы вобразы мэтанакіраваных і паспяховых кіраўнікоў, аўтар зусім не спрабуе ідэалізаваць умовы, у якіх знаходзіцца сельская гаспадарка. Героі кнігі прадстаўлены ў сваім змаганні на два франты: з аднаго боку – калгаснікі, якія не надта рупяцца працаваць, з другога боку–“вертыкаль”, якая ўмешваецца са сваімі нярэдка ідыёцкімі дырэктывамі.

Так, легендарны гаспадарнік з Пастаўшчыны Алег Валадзько распавядае пра свае цяжкасці з кантралюючымі органамі, складанасці з набыццём еўрапейскіх сельгасмашын ды жахлівую якасць беларускай тэхнікі. Дырэктар глыбоцкай птушкафабрыкі ледзьве не апынуўся за кратамі за тое, што асмеліўся сам усталёўваць кошты ды вызначаць кірункі збыту прадукцыі. Кіраўнік СВК “Маяк Браслаўскі” распавядае пра тое, як яму забаранілі купляць за мяжой якасныя кармавыя суперканцэнтраты. Пералік не поўны…

Што праўда, ні аўтар, ні яго суразмоўцы не спрабуюць прааналізаваць прычыны такога становішча. Па-над дыктатам чыноўнікаў у шэрагу нарысаў паказаны вобраз добрага і справядлівага кіраўніка дзяржавы, які ўсяляк імкнецца падтрымліваць сельскую гаспадарку ды яе найлепшых працаўнікоў. Аднак пытання, як даць рады чыноўніцкаму самадурству, ні аўтар, ні ягоныя суразмоўцы не кранаюць.

Аднак, у цэлым кніга пакідае станоўчыя ўражанні. Чытаецца лёгка і цікава. Аўтар здолеў не толькі распавесці пра паўтара тузіна гаспадарнікаў, але і паказаць стан сённяшняй беларускай вёскі.

Кнігу “Антэі Прыдзвіння” можна набыць у краме “Мастацтва” на вул. Маскоўская, 6.

# У 2013 годзе будзе адзначацца 400-годдзе прысутнасці цудатворнага абраза Маці Божай у вёсцы Будслаў

**У 2013 годзе будзе адзначацца 400-годдзе прысутнасці абраза Маці Божай Будслаўскай у вёсцы Будслаў Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Пра гэта паведаміў 23 чэрвеня на прэс-канферэнцыі ў Мінску кусташ нацыянальнага санктуарыя ў Будславе айцец Віктар Бурлака.**

Паводле яго слоў, у 1613 годзе абраз быў прынесены ў Будслаў Ісакам Салакаем з Даўгінава капеланам віленскага ваяводы Яна Паца, які атрымаў святыню ў Рыме з рук Папы Рымскага Кліменція VIII. Амаль увесь час абраз знаходзіўся ў Будславе, акрамя невялікага перыяду на пачатку 1990-х гадоў, калі ў Мінску Віктарам Лукашэвічам праводзілася рэстаўрацыя святыні. У 1998 годзе абраз быў караваны папскімі каронамі.

Як адзначыў айцец Віктар, пачалася духоўная падрыхтоўка да 400-годдзя прысутнасці абраза ў Будславе. Паводле яго слоў, прастольнае свята Маці Божай Будслаўскай нябеснай заступніцы Беларусі, пройдзе сёлета 1 і 2 ліпеня пад дэвізам «Марыя выбраная дачка Айца Нябеснага», а ў наступныя два гады пад дэвізамі «Марыя святыня Духа Святога» і «Марыя Маці Збаўцы».

Кусташ паведаміў, што ў будслаўскім касцёле бернардзінцаў, які з'яўляецца помнікам архітэктуры позняга барока, пабудаваным у 1783 годзе, вядуцца вонкавыя рамонтныя работы і замена вокнаў. Акрамя таго, да святкавання юбілею прысутнасці цудатворнага абраза плануецца выданне манаграфіі гісторыка архітэктуры Святланы Адамовіч пра мінулае вёскі, касцёла і санктуарыя, а таксама духоўнай хронікі сведчанняў пра Божыя ласкі, якія адбыліся праз заступніцтва Маці Божай Будслаўскай.

Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч паведаміў, што да 400-годдзя прысутнасці абраза Маці Божай Будслаўскай у Будславе мяркуецца падрыхтоўка юбілейнага выпуску паштовай маркі.

Штогод цудатворны абраз Маці Божай у будслаўскім касцёле бернардзінцаў збірае пілігрымаў з усіх куткоў Беларусі, а таксама вернікаў з многіх краін на свята, якое з'яўляецца вялікай падзеяй для ўсіх католікаў.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

# Спецыяльная праграма «МАК»



■ М.М. Віцебскі,
маёр міліцыі Глыбоцкага РАУС

На ўліку ў органах аховы здароўя вобласці знаходзіцца каля тысячы чалавек, якія ўжываюць наркатычныя сродкі, рэальная колькасць нарказалежных асобаў у 10 разоў перавышае афіцыйную статыстыку. З іх вялікая палова – гэта асобы, якія сістэматычна ўжываюць наркатычныя сродкі і псіхатропныя рэчывы, якія маюць фізічную залежнасць ад іх.

Нягледзячы на тое, што на тэрыторыі вобласці пераважаюць наркатычныя сродкі расліннага паходжання, такія як марыхуана, макавая саломка, а гэтак жа вытворныя з іх, шырокі распаўсюд атрымалі такія «цяжкія» наркотыкі як гераін, метадон, залежнасць ад якіх можа паўстаць ад аднакратнага ўжывання. У апошні час вялікую «папулярнасць» у асяроддзі моладзі набываюць асабліва небяспечныя псіхатропныя рэчывы, якія дазваляюць весці актыўнае начное клубнае жыццё – амфетамін і экстазі.

Хацелася б перасцерагчы асобаў, якія жадаюць дзеля бяздзейнай цікаўнасці «паспрабаваць» наркатычныя сродкі або псіхатропныя рэчывы ад здзяйснення самай вялікай памылкі ў сваім жыцці, і нагадаць, што ў дачыненні да наркотыкаў «аднаго разу заўсёды бывае шмат, а тысячы заўсёды мала».

У адпаведнасці з дзейсным заканадаўствам, за незаконнае захоўванне наркатычных сродкаў прадугледжана крымінальная адказнасць да 5 гадоў пазбаўлення волі, а за іх збыт да 12 гадоў пазбаўлення волі.

Гэтак жа існуе адміністрацыйная адказнасць і за пасеў або вырошчванне без мэты збыту раслін, якія ўтрымоўваюць наркатычныя сродкі, такіх як мак і каноплі, артыкулам 16.1 КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжана адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры да 20 базавых велічынь.

З 1 чэрвеня 2010 года на тэрыторыі Віцебскай вобласці праводзіцца спецыяльная праграма «МАК», асноўнай задачай якой з'яўляецца знішчэнне наркатычнай сыравіннай базы.

У 2009 годзе за час правядзення аналагічнай праграмы на тэрыторыі раёна было выяўлена і знішчана 54 пасевы маку і канопляў на пошчы 111 м.кв. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 10 чалавек, а на тэрыторыі вобласці да адміністрацыйнай адказнасці за дадзенае правапарушэнне прыцягнута больш 300 чалавек.

Любую інфармацыю пра асобаў, якія ўжываюць наркатычныя сродкі, можна паведаміць у Глыбоцкі РАУС па тэлефонах: 2-26-41, 2-27-02 ці 102, а гэтак жа (+37529) 597-21-74, 314-89-02.

**ПАВАЖАНЫЯ ВАДЗІЦЕЛІ!**

25чэрвеня 2010 г.

ДЗЯРЖАЎТАІНСПЕКЦЫЯ правяла Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху:

# «ПРЫШПІЛІ СЯБЕ І СВАІХ БЛІЗКІХ»



■ Ждановіч А.А.,
старэйшы інспектар ДПС

Выкарыстанне аўтамабільных рамянёў бяспекі ніяк не ўплывае на колькасць ДТЗ, але яно змяншае ступень траўматызму пры ДТЗ. Уплыў рамянёў бяспекі, такім чынам, вымяраецца тым, колькі чалавек было ўдзельнікамі ДТЗ і як размяркоўваліся ДТЗ па сур'ёзнасці траўмаў, нанесеных удзельнікам. ДТЗ падзяляюцца на чатыры ступені цяжару: згуба, высокая ступень траўматызму, лёгкая ступень траўматызму і без траўматызму. Бо выкарыстанне рамянёў бяспекі змяншае верагоднасць згубы кіроўцы ці пасажыраў пры ДТЗ, то адносна радзей пры ДТЗ гінуць тыя, хто выкарыстоўвае рамень бяспекі, у параўнанні з тымі, хто не выкарыстоўвае.

Памятайце, што кіроўца таксама нясе адказнасць за выкарыстанне рамяня бяспекі ўсімі пасажырамі незалежна ад іх узросту!

Нагадаем, штраф за невыкарыстанне рамянёў бяспекі дасягае 15В.

# Падчас залевы на Нямізе эвакуіравана 53 чалавекі

**53 чалавекі эвакуіравана супрацоўнікамі МНС на вуліцы Няміга падчас залевы, якая абрынулая на Мінск увечары 26 чэрвеня, паведаміў БелаПАН прэс-сакратар МНС Віталь Навіцкі.**

Эвакуацыя праводзілася з чатырох тралейбусаў; пасажыры маршрутнага таксі выйшлі самі. Пацярпелых няма. Як мінімум на васьмі ўчастках аўтамабільных дарог прыпыняўся рух грамадскага транспарту.

Ападкі выпадалі вельмі нераўнамерна. Калі Нямігу затапіла, дык у раёне абсерваторыі з 9 да 19 гадзін выпала ўсяго 7 мм ападкаў. Больш падрабязныя звесткі будуць вядомыя пазней.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

# У Віцебску супрацоўнікі МНС дапамаглі пяцігадовай дзяўчынцы выбрацца з рашоткі лівневай каналізацыі

**У Віцебску супрацоўнікі МНС дапамаглі пяцігадовай дзяўчынцы выбрацца з рашоткі лівневай каналізацыі.**

Вечарам 25 чэрвеня ў МНС ад прахожага паступіла паведамленне, што паміж прутамі рашоткі лівневай каналізацыі ў двары па праспекце Будаўнікоў засела нага дзіцяці, якая не магла самастойна вызваліць яе.

Пры дапамозе гідраўлічнага інструмента нага была вызвалена з іржавай рашоткі.

Дзяўчынка ў шпіталізацыі не мае патрэбы. На сайце МНС размешчана фатаграфія з месца здарэння.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*

# КДБ і МУС ліквідавалі канал кантрабанды буйных партый сінтэтычных наркотыкаў з Літвы ў Беларусь

**Камітэт дзяржбяспекі і Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі ў выніку правядзення сумеснай аперацыі ліквідавалі канал кантрабанды буйных партый сінтэтычных наркотыкаў з Літвы ў Беларусь.**

Як паведамілі ў цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязей КДБ, 15 чэрвеня ў Валожынскім раёне на трасе Мінск — Гродна супрацоўнікамі УКДБ па Мінску і Мінскай вобласці былі затрыманы два жыхары Смалявічаў. Пры надаглядзе іх легкавых аўтамабіляў, аператыўнікі канфіскавалі 12 кг асабліва небяспечнага псіхатропнага рэчыва — параметылэфедрону. Паводле папярэдняй ацэнкі, кошт гэтай партыі наркотыкаў можа складаць 250 тыс. долараў ЗША пры аптовым продажы і звыш 1 млн. долараў — пры рэалізацыі фасаваных доз для разавага ўжывання.

У дачыненні да затрыманых следчым аддзелам УКДБ па Мінску і Мінскай вобласці распачата справа па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 328 Крымінальнага кодэкса (незаконны абарот наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і прэкурсораў, учынены групай асоб у буйным памеры).

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# У Віцебску прайшоў першы конкурс на самага высокага гараджаніна

**Першы конкурс на самага высокага гараджаніна «Віцебскі волат» прайшоў 26 чэрвеня ў абласным цэнтры. Мерапрыемства, арганізаванае гарадской газетай «Витьбичи», прысвячалася памяці выхадца рэгіёну Фёдара Махнова, які лічыцца самым высокім чалавекам у свеце (285 см).**

У спаборніцтве волатаў і волатак мог узяць удзел любы ахвотны. Вымярэнне росту канкурсантаў праходзіла каля сцэны на плошчы Свабоды, дзе была ўсталявана фанерная постаць Махнова з сантыметровымі дзяленнямі. Публічна памерацца ростам вырашылі 17 жыхароў горада.

Пераможцам конкурсу стаў 27-гадовы інжынер УП «Віцебскаблгаз» Аляксей Андрыянаў, рост якога роўны 208 см. На другім і трэцім месцы сярод мужчын апынуліся браты Аляксей і Мікалай Мікалаевы (204 і 202 см). Сярод дам самай высокай была прызнана спецыяліст па працы з кліентамі фірмы «Практыкус» Наталля Русанава (197,5 см). У тройку лідэраў увайшлі фізрук дзіцячага садка № 42 Ірына Іванова (196 см) і супрацоўніца Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Першамайскага раёна Віцебска Алена Чыстабаева (194 см).

На конкурс прыйшлі замежныя грамадзяне: іспанец Хуан Карлас і француз Матыяс Рабіе (198 см кожны). Гледачам таксама запомнілася 70-гадовая віцебская пенсіянерка Ніна Мешчаракова, якая, нягледзячы на рост 124 см, узяла ўдзел у конкурсе дзеля жарту і стварыла кантраст волатам.

Як паведаміла БелаПАН намеснік галоўнага рэдактара газеты «Витьбичи», член журы конкурсу Наталля Конахава, самыя высокія ўдзельнікі конкурсу атрымалі прызы: дыван і запрашэнне ў рэстаран «Эрыдан» на дзве персоны. Каштоўнымі падарункамі былі ўзнагароджаныя і іншыя ўдзельнікі конкурсу.

**Даведка БЕЛАПАН.** Фёдар Махноў селянін, выхадзец вёскі Касцюкі Віцебскага раёна, яго рост быў 285 см. Меў ступню 51 см, далонь 31 см, вагу 185 кг.

Віцебскі волат нарадзіўся 18 чэрвеня 1878 года. Велізарны рост і незвычайная сіла прынеслі яму сусветную славу. Працуючы ў цырку, ён пабываў з гастролямі ў Еўропе і ЗША. Лёгка гнуў падковы, круціў спіралі з жалезных прутоў, паднімаў платформу, на якой іграў аркестр, быў непераможным барцом. Завяршыўшы цыркавую кар'еру, вярнуўся на радзіму, дзе памёр ва ўзросце 34 гадоў. На могілках у вёсцы Старое Сяло Віцебскага раёна захавалася яго магіла. У музеі мясцовай школы створана экспазіцыя, прысвечаная Махнову, галоўным экспанатам якой з'яўляюцца каркас ложка, на якім ён спаў. Самы высокі з дзяцей волата, Мікалай, быў ростам каля 190 см.

*Тацціяна Чабатарова, БелаПАН.*

